Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 680.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Серада, 8 ліпеня 1998 г. № 72 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Беларускія ўлады паламалі амерыканскую агароджу

***«Урад Беларусі ў чарговы раз парушыў Венскую канвенцыю аб дыпламатычных зносінах», —* заявіў 6 ліпеня прэс-сакратар Дзярждэпартамента ЗША Джэймс Рубін.**

На думку афіцыйнага Вашынгтона, чарговым парушэннем стаў факт зносу агароджы вакол рэзідэнцыі пасла Злучаных Штатаў у Драздах. Як адзначае Дж.Рубін, агароджа была знесеная без уведамлення амерыканскага боку; больш таго, пабочныя асобы з'явіліся на тэрыторыі рэзідэнцыі, якая фактычна з'яўляецца тэрыторыяй ЗША.

Прэс-сакратар Дзяржздэпартамента нагадаў, што ўрад Беларусі не дазволіў амерыканскаму боку ўстанавіць уласную ахову рэзідэнцыі; такім чынам Беларусь узяла на сябе адказнасць па ахове ад несанкцыяваных уварванняў. *«Мы нагадваем беларускаму рэжыму, што рэзідэнцыя кіраўніка місіі знаходзіцца пад аховай Венскай канвенцыі,* — гаворыцца ў заяве. — *Мы чакаем, што ўрад Беларусі неадкладна адновіць знесеную агароджу, дазволіць нам устанавіць уласную ахову і адкрые Злучаным Штатам бесперашкодны доступ да амерыканскай маёмасці».*

*БелаПАН*

### Натарыусы пад пятою дзяржавы

**Той факт, што цяперашні рэжым не здольны стварыць умовы для нармальнага развіцця эканомікі, а ўмее толькі адбіраць і размяркоўваць, атрымаў чарговае пацверджанне. Новымі ахвярамі сталі прыватныя натарыусы, з якіх улады маюць намер садраць мільярды рублёў.**

Мы ўжо паведамлялі пра ўказ Лукашэнкі, паводле якога прыватныя натарыусы павінны ўнесці ў бюджэт дзяржавы велізарныя сумы грошай. Лукашэнка вырашыў, што падаткі, якія плацілі натарыусы за мінулыя гады працы, з'яўляюцца недастатковымі, і загадаў «заднім чыслом» зрабіць пераразлік па новых правілах. Відавочна, што гэта супярэчыць не толькі здароваму сэнсу, але і агульнапрынятым прававым нормам: закон (тым больш падзаконны акт) не можа мець зваротнай сілы.

Спецыяльна створаная міжведамасная камісія такі пераразлік зрабіла. Напрыклад, першы з прыватных натарыусаў Беларусі Антаніна Турмовіч павінна выплаціць дзяржаве аж 1 мільярд 600 мільёнаў рублёў! Другі мінскі натарыус, Ірына Пятрова атрымала трохі меншую «запазычанасць» — 908 мільёнаў. Розніца на самой справе неістотная, бо такіх грошай у натарыусаў усё адно і блізка няма. Астатнім прыватным натарыусам камісія паведаміла, што на гэтым тыдні перадасць матэрыялы ў раённыя пракуратуры. Потым справы пойдуць у суд, і далей — вопіс маёмасці.

Безумоўна, пры незалежнай судовай уладзе такія справы былі б бязглуздымі: з юрыдычнага пункту гледжання яны не маюць пад сабою ніякага падмурку. Натарыусаў жа не абвінавачваюць у тым, быццам яны парушалі нейкія нарматыўныя акты, што існавалі ў той перыяд, за які з іх спрабуюць спагнаць грошы. Але ў нас, трэба чакаць, суды па завядзёнцы выканаюць загад выканаўчай улады, не зважаючы на нормы права.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

### У вёсцы – сенакос



*Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Іван Антановіч ужо каля дзесяці дзён падарожнічае за межамі Беларусі*

## Міністр за мяжой, а паслы дома

**Антановіч пакінуў Мінск напрыканцы чэрвеня, літаральна ўслед за пасламі заходніх краінаў. У прэс-цэнтры МЗС пакуль не ведаюць канкрэтнай даты вяртання свайго шэфа ў Мінск і называюць 9—10 ліпеня.**

### У Кітаі нас разумеюць

Спачатку міністр накіраваўся на тыдзень у Пекін, дзе адбыліся перамовы з намеснікам старшыні Дзяржсавета КНР, міністрам замежных справаў і намеснікам старшыні Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў. Бакі абмеркавалі «шырокае кола праблем» і адзначылі, што іх погляды супадаюць. Іван Антановіч падзякаваў Пекіну «за падтрымку ўнутранай і знешняй палітыкі, праводзімай прэзідэнтам і ўрадам Беларусі» і асабліва за дапамогу ў аднаўленні членства Беларусі ў Міжпарламенцкім саюзе. А кітайскі міністр замежных справаў прыгадаў заслугі афіцыйнага Мінска пры «падтрымцы Кітая ў міжнародных арганізацыях па пытанні правоў чалавека». Дарэчы, Кітай пачаў высылаць з краіны некаторых сваіх дысідэнтаў, што з'яўляецца



значным крокам наперад у параўнанні з ранейшай практыкай іх расстрэлаў і пажыццёвых зняволенняў.

Кіраўнік кітайскага знешнепалітычнага ведамства Тан Цзясюань запрасіў беларускіх прадстаўнікоў паўдзельнічаць у сімпозіуме «Правы чалавека і арыенціры ў XXI стагоддзе», які пройдзе па ініцыятыве Усекітайскай асацыяцыі па вывучэнню правоў чалавека. Тан Цзясюань паведаміў Івану Антановічу, што Чырвоны Крыж КНР сабраў для Беларусі матэрыяльную дапамогу (20 тысяч долараў ЗША) для ліквідацыі наступстваў стыхійных бедстваў.

Іван Антановіч жыва цікавіўся будаўніцтвам у горадзе Сіаганьс сумеснага беларуска-кітайскага завода па зборцы цягачоў, якія кітайцы мяркуюць выкарыстоўваць для мабільных установак, аснашчаных ядзернымі ракетамі.

Каб закамуфляваць міжнародную ізаляцыю, Іван Антановіч перадаў старшыні Дзяржсавета КНР Цзян Цзэміню настойлівае запрашэнне ад прэзідэнта Лукашэнкі наведаць Беларусь.

### Наступны прыпынак – Душанбэ

Пасля кітайскай кухні Іван Антановіч вырашыў паспытаць таджыкскую. У Душанбэ ён прыбыў 6 ліпеня, дзе сустрэўся з прэзідэнтам Эмамалі Рахмонавым, а таксама старшынём парламента і прэм'ер-міністрам. Кіраўнік беларускага МЗС збіраецца заняцца мытным саюзам з Таджыкістанам.

Пасля Душанбэ Іван Антановіч збіраецца ў Маскву — напэўна, будзе кансультавацца, як вярнуць паслоў заходніх краінаў у Мінск.

### Паслоў навучаць

А тым часам у Мінску ўжо два тыдні сядзяць беларускія паслы, якіх адправілі дадому з краінаў Еўрасаюза, ЗША і Японіі. Каб нашыя дыпламаты не бадзяліся па Мінску без справы і не пакутавалі ад насталгіі па Вашынгтону ды Парыжу для іх арганізавалі семінар «па падвышэнню кваліфікацыі». Цэлы тыдзень, з 6 па 13 ліпеня, дыпламаты, як старанныя вучні, будуць прыходзіць у Акадэмію кіравання пры прэзідэнце РБ на лекцыі такіх вядомых спецыялістаў у галіне міжнародных адносінаў, як Сяргей Лінг ды Міхаіл Мясніковіч.

**Мікола ВАЙТОВІЧ, Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Скарбы ў сценах сабора

*Таямніцу хавалі 13 гадоў*

**У Літве — сапраўдная сенсацыя. Аказваецца, краіна мае ўнікальную і вельмі каштоўную калекцыю культавых прадметаў, якія ў свой час належалі Віленскаму катэдральнаму сабора. Знаходку хавалі 13 гадоў, таму што баяліся, каб скарбы не былі вывезеныя ў маскоўскія сховішчы.**

Як сцвярджае галоўны шукальнік скарбу — дырэктар Літоўскага мастацкага музея Рамуалдас Будрыс, калі б скарб давялося экспанаваць за мяжой, толькі яго страхаванне (270 рэчаў з золата і срэбра, упрыгожаных каштоўнымі камянямі) пацягнула б на сотні мільёнаў долараў.

Аб гісторыі скарбу расказвае газета *Lietuvos rytas*. У Вялікім княстве Літоўскім накапліваліся два вялікія мастацкія фонды. Адзін захоўваўся ў Ніжнім каралеўскім замку, другі — у Катэдральным саборы. Першы быў створаны з падарункаў, атрыманых ад замежных каралёў і князёў і, як сведчаць гістарычныя крыніцы, мог супернічаць з венецыянскімі і ватыканскімі скарбамі. Аднак ён быў разрабаваны як рускімі, так і шведскімі войскамі. Рэшткі скарбу былі вывезеныя ў Кракаў і Варшаву пасля пераезду туды каралеўскага двара.

Скарбніца Віленскага Катэдральнага сабора на працягу многіх стагоддзяў папаўнялася падарункамі шляхты, членаў сем'яў правіцеляў, якія замаўлялі культавыя рэчы ў лепшых еўрапейскіх ювеліраў. Адзін з найбольш каштоўных экспанатаў — вялікі гатычны макет адной з віленскіх царкваў XVI ст. — падараваў першы муж Барбары Радзівіл. Гэты культавы атрыбут з залачонага срэбра, вышынёй 152 см і вагой 20 кг, на думку спецыялістаў, не саступае самым вядомым шэдэўрам Ватыкана. Лічыцца, што яго ніколі не ўжывалі падчас малітваў. Самая ж старажытная рэч — равесніца сабора, заснаванага ў 1357 годзе.

Зразумела, што адкрытыя каштоўнасці — толькі частка былога скарбу. Пры набліжэнні да Вільні рускай арміі ў 1655 годзе скарб вывезлі з Катэдральнага сабора: частку па рацэ, частку на вазах. Найбольш каштоўны — «рачны» скарб, у якім былі падарункі Вітаўта Вялікага і Ягайлы, — трапіў у рукі жаўнераў царскай арміі і з таго часу кануў у Лету. А «сухапутны» пазней быў вернуты на месца.



Аб скарбе ў Літве занепакоіліся ў 1939 годзе, калі Вільня стала літоўскай. З 1962 г. пошукі скарбу набылі больш мэтанакіраваны характар, і Р.Будрыс з калегамі пачалі збіраць інфармацыю, каб мець магчымасць ідэнтыфікаваць рэчы. Аднак ні ў Польшчы, ні ў маскоўскіх сховішчах не ўдалося знайсці прадметы з Катэдральнага сабора.

У 1985 г. пры рамонце і рэстаўрацыі сабора былі распачатыя таксама археалагічныя вышукі. За тры гады было зроблена шмат гістарычных адкрыццяў. Не менш цікавымі аказаліся і фізічныя: з дапамогай спецыялістаў і абсталявання вядомай Каўнаскай лабараторыі вібратэхнікі было выяўлена пяць полацяў у сценах сабора. Сам скарб быў знойдзены 27 сакавіка 1985 года.

У таямнічых дзеяннях удзельнічалі чацвёра: дырэктар музея Будрыс, археолаг Кіткаўскас плюс двое чыноўнікаў з міністэрства культуры.

Будрыс паведаміў пра знаходку міністру культуры, а той — кіраўніцтву Літвы. Але вырашылі нічога не афішаваць, бо разумелі, што скарб забярэ Масква. Каштоўнасці закансервавалі ў надзейных сховішчах. У студзені 1991 г., калі на вуліцы Вільні выехалі савецкія танкі, самыя дарагія рэчы перахаваныя...

**Таццяна КАМОРСКАЯ**

## Якуцкія беларусы просяць дапамогі

**Старшыня беларускай дыяспары Якуціі Таццяна Кавалёва выступіла са зваротам да беларускага народа, у якім заклікае аказаць дапамогу насельніцтву Рэспублікі Саха (Якуція), якое пацярпела ад надзвычай моцнай паводкі.**

У выніку стыхійнага бедства тысячы людзей засталіся без жылля, адзення і сродкаў да існавання, у тым ліку сотні беларускіх сем'яў. Беларуская дыяспара ў Якуціі налічвае 12 тысяч чалавек.

Б.П.

*Ліст у рэдакцыю*

## Навошта скандаліць?

Даведаўшыся пра паездку прэзідэнта ў Швейцарыю, я зранку ўключыў тэлевізар, каб пачуць пра яе вынікі. Хацелася ўсвядоміць, што нам, жыхарам Беларусі, прынесла вандроўка Лукашэнкі на эканамічны форум? Можа, нарэшце, пойдуць інвестыцыі ў нашу заняпалую эканоміку, будуць перададзены найноўшыя тэхналогіі?

Калі я пачуў, як наш прэзідэнт назваў удзельнікаў форуму ў Кран-Мантане «звярынцам», стала ясна: што паехаў прэзідэнт у Швейцарыю не за новымі тэхналогіямі, а за новымі скандаламі. Я ўжо немалады чалавек і добра памятаю, як у 60-я гады Нікіта Хрушчоў з трыбуны ААН заявіў Захаду: «Мы вам покажем кузькину мать!» Тысячы палітработнікаў агучвалі гэта выказванне кіраўніка СССР, і яго ведалі нават школьнікі. Усе былі ў захапленні. Вось гэта па-нашанску, папростаму! Я і сам тады пляскаў у далоні. З вечара займаў чаргу па хлеб і пляскаў у далоні разам з іншымі.

Але «кузькіну маць» Хрушчоў паказаў не Захаду, а сваім згаладалым суайчыннікам. Калі галодныя рабочыя ў Навачаркаску выйшлі на дэманстрацыю, іх расстралялі з аўтаматаў савецкія салдаты, расстралялі разам з дзеткамі. Вось табе і «кузькіна маць!»

Цяпер 1998 год, але ўжо прэзідэнт Беларусі пагражае, паказвае Захаду «кузькіну маць». Хрушчоўскія скандалы і халодная вайна абышліся нам дорага. Колькі каштуюць нам скандалы прэзідэнта, я яшчэ не ведаю, але, відаць, гэта мільярды долараў у год плюс адмоўны, абразлівы імідж нашай краіны і народа.

Мы ўсе, канечне, вінаватыя, што абралі прэзідэнтам прыроджанага скандаліста, які за некалькі гадоў паспеў пасварыцца і са сваёй перадвыбарчай камандай, і з Еўропай, і з Амерыкай, і з замежнымі дыпламатамі, і з вялікай часткай уласнага народа. Але я асабіста не даваў яму права ад майго імя абражаць цэлыя краіны і асобных людзей. Таму я хачу папрасіць прабачэння ў Еўропы, Амерыкі, замежных дыпламатаў і суайчыннікаў за паводзіны нашага правіцеля. Хай не думаюць, што ўсе беларусы такія скандалісты.

**Міхал МАРЫНІН,**
*рабочы, 57 гадоў, Гомель.*

## Святару прызначылі дату суда

**Святар Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы Пётр Гушча, які знаходзіцца пад вартай у следчым ізалятары, стане перад судом 18 жніўня.**

Справу ў судзе Савецкага раёна Мінска будзе разглядаць суддзя Генадзь Дашук. Як паведамлялася раней, Пётр Гушча быў затрыманы 6 сакавіка гэтага года; супраць яго ўзбуджана крымінальная справа па падазрэнні ва ўчыненні злачынства, прадугледжанага артыкулам 118 Крымінальнага кодэкса, — *«распусныя дзеянні»*. Потым яму былі прад'яўлены абвінавачанні па іншым артыкуле — 201, частка 2 — *«злоснае хуліганства»*, што прадугледжвае больш жорсткае пакаранне — да 5 гадоў пазбаўлення волі. У якасці пацярпелых у справе выступаюць дзве непаўналетнія дзяўчынкі, 8 і 10 гадоў.

П.Гушча катэгарычна адмаўляе сваю віну, усё, што адбываецца, называе палітычнай правакацыяй з мэтай падрыву аўтарытэту Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы. Падчас знаходжання ў СІЗО ён прайшоў абследаванне ў Рэспубліканскай псіхіятрычнай клінічнай бальніцы і прызнаны псіхічна здаровым.

Абаранць святара ў судзе будзе вядомы адвакат Міхаіл Волчак.

*БелаПАН*

*КАДРЫ*



## Касцёл, заснаваны самім каралём

**Адна з самых старых каталіцкіх парафіяў Гродзеншчыны адзначыла 500-годдзе.**

Яна знаходзіцца ў вёсцы Гожа, што за 15 кіламетраў на поўнач ад Гродна па дарозе ў Друскенікі і Вільню. Першы касцёл — драўляны — быў заснаваны яшчэ каралём Казімірам Ягайлавічам, які даў святарам у карыстанне землі каля Нёмана, млыны і возера.

Цяперашні мураваны касцёл быў пабудаваны ў 1869 годзе. У ім, дарэчы, захаваўся уніяцкі абраз. З нагоды ўгодкаў урачыстае набажэнства ў храме адслужыў біскуп А.Кашкевіч. А ксёндз тут свой, тутэйшы: пробашчам касцёла цяпер служыць выпускнік Гродзенскай каталіцкай семінарыі А.Саміла.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

## Эмігранты купілі дом у Нясвіжы

**Аддзел Саюза палякаў у Нясвіжы цяпер мае ўласны дом. Грошы на яго пакупку сабралі польскія эмігранты ў Англіі.**

Ініцыятарамі акцыі сталі былыя жыхары Нясвіжа, якія апынуліся за мяжой. Раней нясвіжскія палякі арандавалі памяшканне ў доме, дзе Сымон Будны друкаваў у XVI стагоддзі беларускія кнігі.

Саюз палякаў мае таксама свае дамы ў Гродне, Баранавічах, Лідзе і Магілёве.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

## Івану Ціцянкову аддалі зэкаў

**На баланс упраўлення справамі прэзідэнта перададзены шэраг гаспадарчых і прыродных аб'ектаў у Івацэвіцкім раёне на Брэстчыне.**

Нядаўна прэзідэнт Лукашэнка падпісаў распараджэнне, згодна з якім ведамству Івана Ціцянкова перадаюцца эксперыментальная леса-паляўнічая гаспадарка і Выганашчанскае возера з рыбагадоўчым комплексам. Агульная плошча зямлі, што займаюць гэтыя гаспадаркі, складае 11 тысяч гектараў. Акрамя лесу і возера, у падпарадкаванне ціцянкоўскай гаспадарцы пераходзіць і лыжная фабрыка ў пасёлку Целяханы. На гэтым прадпрыемстве працуе нямала зняволеных Івацэвіцкай калоніі, якія, акрамя спартовага інвентару, вырабляюць таксама мэблю, паркет і іншыя тавары.

Так што цяпер у ведамстве галоўнага прэзідэнцкага гаспадарніка будуць працаваць людзі розныя: не толькі прафесійныя паляўнічыя і рыбаловы, але і бандыты.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## З вандаламі разбярэцца Савецкі суд

**У Савецкі раённы суд Мінска перададзеная крымінальная справа супраць дзесяці маладых мінчан, якія падазраюцца ў цэлай серыі крадзяжоў ды іншых злачынстваў.**

Самае гучнае з іх — пагром на Вайсковых могілках Мінска, які быў учынены сёлета 24 лютага. У тую ноч на могілках на вуліцы Казлова было парушана 12 надмагільных плітаў, 10 крыжоў, а на наступны дзень пашкоджанымі аказаліся яшчэ некалькі дзесяткаў помнікаў. Следчыя Савецкага райаддзела міліцыі, якія ўзяліся за гэтую справу, досыць хутка натрапілі на след вандалаў. Як высветлілася ў выніку следства, гэтая групоўка падлеткаў займалася не толькі хуліганствам, але і крадзяжамі ды рабаўніцтвам. Дзейнічала групоўка на працягу двух гадоў.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## У Гомелі – два універсітэты

*Гомельскі політэхнічны інстытут цяпер будзе называцца універсітэтам*

Новая поўная назва ВНУ — Дзяржаўны тэхнічны універсітэт імя П.В.Сухога. Па словах рэктара Альберта Шагіняна, гэта не простая змена шыльды. Універсітэцкі статус не толькі дазволіць узняць узровень падрыхтоўкі спецыялістаў, але і дасць магчымасць гомельскай ВНУ ўступіць у еўрапейскую і сусветную асацыяцыі універсітэтаў. Дарэчы, 1 ліпеня гэтай навучальнай установе споўнілася 30 гадоў.

*БелаПАН*

# Скандал в Швейцарии –

Не успел отгреметь скандал с посольскими резиденциями в Дроздах, как Лукашенко учинил еще один. В швейцарском городе Кран-Монтана он вступил в перепалку с участниками экономического форума и, в ответ на обвинения в диктаторстве, демонстративно покинул зал заседаний.

*«Форум в Кран-Монтане был задуман еще в 91-м году, после развала Советского Союза, прежде всего с целью предоставить новым государствам возможность общения с Западом,* — рассказывает бывший заместитель министра иностранных дел Беларуси Андрей Санников. — *В первые годы в форуме участвовали действительно крупные политические фигуры и с Запада, и с Востока; постсоветские государства обычно представляли первые лица. Предполагалось даже, что форум в Кран-Монтане станет некой альтернативой другому, который проходит в той же Швейцарии, — знаменитому Давосскому форуму. Но на сегодняшний день реноме Кран-Монтанского форума слегка подмочено в силу того, что там в числе других собираются и люди, которые, мягко говоря, пользуются небезупречной репутацией (как в политическом, так и в экономическом плане)»*.

**— Основная цель поездки туда Лукашенко — это очередная попытка привлечь в Беларусь инвестиции?**

— Главным, на мой взгляд, все же был политический мотив. Основная цель была связана с тем, что форум в Кран-Монтане стал одной из редких возможностей съездить на Запад. Ведь об официальных визитах Лукашенко в демократические страны не может быть и речи. Но и экономические цели наверняка тоже были.

**— Тот факт, что на экономическом форуме были подняты политические вопросы, глава лукашенковской администрации Михаил Мясникович расценил как «попытку совершить обструкцию нашему президенту»...**

— На мой взгляд, со стороны европейских участников не было желания обострить ситуацию. Была попытка повлиять на Лукашенко в плане изменения ситуации в Беларуси. Интересные политические дискуссии возникали на этом форуме и в прошлые годы. Поэтому то, что был поднят вопрос о диктатуре в Беларуси, не было чем-то неожиданным. Наоборот, как раз от Лукашенко ожидали, что он будет по-другому себя вести. Потому что в глазах европейцев желание привлечь инвестиции должно быть подкреплено демократическими преобразованиями, защитой прав человека. Если бы в этом плане у нас в стране был иной климат — была бы иная ситуация и с инвестициями.

Сейчас уже очевидно, что Лукашенко никаких инвестиций не дадут. И, наверное, со стороны демократических стран это правильно, так как народ в условиях теперешнего режима все равно не получил бы ничего. Инвестиции пошли бы не на пользу обществу, а были бы использованы в интересах отдельных людей и группировок, близких к власти.

**— Мясникович говорит, что глава форума Жак Картерон «готовит Александру Григорьевичу письмо с извинениями». Насколько это реально? Если такое письмо появится, будет ли это чем-то большим, нежели личная точка зрения господина Картерона?**

— Как раз от Картерона вполне можно ожидать такого письма. Картерон в прошлом году приезжал в Минск, вел переговоры с Лукашенко, причем насчет предмета переговоров огласки не было. Сам



Картерон — фигура крайне неоднозначная, на свои форумы он собирает довольно пёструю компанию. По неофициальной информации, у Картерона с Лукашенко особые отношения, поскольку Картерон имеет личные деловые интересы в Беларуси. Ничего удивительного в этом нет. Это солидный, структурированный капитал не может себе позволить направлять средства в рискованные зоны, которыми являются недемократические страны. Отдельные же бизнесмены с сомнительными репутациями вполне могут сотрудничать с

## Афіцыйная мова – толькі арабская

**У Алжыры, нягледзячы на бурныя пратэсты бербераў, уступіў у сілу новы закон аб мове.**

У адпаведнасці з гэтым законам, адзінай афіцыйнай мовай краіны аб'яўляецца арабская, за выкарыстанне ж замежных моваў (у прыватнасці, шырока распаўсюджанай у Алжыры французскай) і берберскай мовы прадугледжваюцца значныя грашовыя штрафы. 8 мільёнаў алжырскіх бербераў разглядаюць арабізацыю краіны як пагрозу іх нацыянальнай самабытнасці. З часоў здабыцця Алжырам незалежнасці ад Францыі ў 1962 годзе, берберы дамагаюцца пашырэння аўтаноміі, а таксама афіцыйнага прызнання іх мовы, паведамляе агенцтва «Асашыэйтэд Прэс».

## Ніхто не хоча амерыканцаў

**Знізіліся замежныя інвестыцыі ў амерыканскую эканоміку.**

Як паведамляе міністэрства гандлю ЗША, летась іншаземцы патрацілі 70,8 млрд. долараў на набыццё амерыканскіх кампаній ці адкрыццё ўласных фірмаў на тэрыторыі ЗША. У параўнанні з 1996 годам, калі быў устаноўлены рэкорд у 79,9 млрд. долараў, гэты паказчык знізіўся на 11,4%.

Эксперты тлумачаць зніжэнне дынамікі ўскладненнямі на сусветным эканамічным рынку, у першую чаргу ў Японіі. Акрамя гэтага, долар, моцны як ніколі, тармозіць экспансію ў ЗША замежнага капітала, што мае вынікам памяншэнне колькасці буйных здзелак.

## Дзень памяці ахвяраў генацыду ў Рызе



4 ліпеня 1941 года пасля акупацыі сталіцы Латвіі войскамі нацысцкай Германіі была спалена рыжская сінагога, у якой зажыва згарэлі 2 тысячы габрэяў. Ужо два гады гэты дзень у Латвіі адзначаюць як Дзень памяці ахвяраў генацыду габрэяў. Ушанаваць памяць загінуўшых сабраліся ў мінулую пятніцу на месцы згарэлага храма відныя прадстаўнікі габрэйскай абшчыны горада.

## Шэварднадзэ – ганаровы алімпіец

**Прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта Хуан Антоніо Самаранч даслаў афіцыйнае пасланне прэзідэнту Грузіі аб тым, што рашэннем арганізацыйнага Савета Міжнароднага Алімпійскага камітэта Эдуард Шэварднадзэ ўзнагароджаны Залатым алімпійскім ордэнам.**



Залаты алімпійскі ордэн усталяваны ў 1974 годзе і прысуджаецца тым асобам, якія адлюстравалі ў сваім жыцці алімпійскія ідэалы і садзейнічалі іх увасабленню ў жыццё. Зыходзячы з гэтага, ордэн прысуджаецца як выбітным спартсменам і спартыўным дзеячам, так і вядомым палітычным, грамадскім і рэлігійным дзеячам. Кавалерамі гэтага ордэна з'яўляюцца Франсуа Мітэран, Індзіра Гандзі, Нурсултан Назарбаеў, Маўна Койвіста, Нэльсан Мандэла, Рыхард фон Вайцзэкер, Барыс Ельцын, Хав'ер Салана, Джулія Адрэоці, Ян Павел ІІ і іншыя.

## «Мёртвыя душы» па-італьянску

**Італьянская падатковая паліцыя знайшла ў спісах асобаў, якія атрымоўваюць грашовую дапамогу па беднасці ў паўднёвай правінцыі Калабрыя, імёны 17 тысячаў «мёртвых душ».**

Махлярства ў сферы сацыяльнай дапамогі, карані якога хаваюцца ў карупцыі афіцыйных колаў, — даўняя праблема Італіі. Паліцыя ў рэчышчы агульнай антыкарупцыйнай тэндэнцыі і спробаў урада скарацiць выдаткі на сацыяльныя патрэбы, апошнім часам прымае рашучыя меры па барацьбе з падлогамі ў гэтай сферы.

Людзі, што значыліся ў спісах, але памерлі ў прамежак часу з 1990 па 1997 год, «атрымоўвалі» штогод 5 мільярдаў лір (3 млн. долараў).

*Падрыхтавала* **Алена СУРКО**

## Ведьмы налогов не платят

**Венгерские ведьмы одержали внушительную победу над налоговыми инспекторами. И для этого им даже не пришлось прибегнуть к испытанному оружию — наложению заклятья.**

«Им пришлось отступить, когда они поняли, что откусили больше, чем могут проглотить», — радостно восклицает «главный колдун» Йожеф-Цезарь Мешарош, ликующе поднимая вверх свои демонические брови и показывая копию постановления суда, признающего за Венгерской ассоциацией ведьм и колдунов статус освобожденной от налогов организации.

Попытки собрать налоги в Венгрии постоянно наталкиваются на сопротивление многочисленной армии уклоняющихся от их уплаты граждан. Явление это приобрело характер эпидемии практически во всех странах посткоммунистической Европы.

Мешарош и 10-тысячная армия членов его ассоциации тоже могли избрать более легкий путь: задекларировать небольшую часть доходов от заклинаний, ворожбы и гаданий, а остальное прикарманить в расчете на то, что налоговое управление их не поймает. Вместо этого они решили принять вызов властей и отказались зарегистрироваться в налоговом управлении.

*«Мы ворожим из чисто благотворительных побуждений,* — утверждает Мешарош, — *а на жизнь зарабатываем совершенно другими способами. Я, например, торгую антиквариатом... Мы не собираем членских взносов, не имеем государственной поддержки, как многие европейские церкви».*

На судебном процессе прокурор утверждал, что ведьмачество *«ориентировано на бизнес»*. Кроме того, прокурор высказал сомнение в том, можно ли считать наложение заклятий, втыкание булавок в куклы и прочие колдовские церемонии имеющими такую же религиозную ценность, как венчание, похороны и другие виды услуг, оказываемые признанными церквями, имеющими в Венгрии статус освобожденных от налогов организаций.

Но суд признал за колдунами право на освобождение от налогов.

Самый дешевый сеанс у колдуна стоит 2.000 форинтов (10 долларов) — немалая сумма для рядового венгра, но верящие в магию охотно платят.

*«Они дают мне то, что не в состоянии дать обычная церковь,* — говорит Жужа, 20-летняя блондинка, постоянно консультирующаяся с ведьмами и колдунами по проблемам любви и профессии. — *И если их заставить платить налоги, то они подымут цены на услуги. А я этого не хочу».*

**Иштван НОДЬ,**
*Будапешт*

## Незваные гости незаменимы

*Если все иммигранты уедут, кто же будет работать?*

Экстремистские силы во многих странах во всех бедах винят иммигрантов: из-за них преступность высокая, на пособия для них расходуются деньги налогоплательщиков, и самое главное, они отбирают работу у законных граждан страны. Громче всего кричат об этом во Франции и Германии. Но не только.

Особенно усиливаются такие разговоры в периоды ухудшения экономического положения, когда к «решению» проблем нелегальной иммиграции подключаются официальные власти — ведь обратив гнев народа на избранных «козлов отпущения», можно отвлечь внимание от собственных ошибок и просчетов. Характерным примером такой политики являются последние события в странах Юго-Восточной Азии, где не прекращается финансово-экономический кризис.

Правительства этих стран под давлением «патриотических» партий и организаций провели массовую высылку десятков тысяч нелегальных иммигрантов, приехавших на заработки в Таиланд, Малайзию, Сингапур и другие еще недавно процветающие страны.

Однако тут выяснилось интересное обстоятельство. Оказывается, иммигранты выполняли работу, от которой местные жители начисто отказываются. В Таиланде, например, где без работы остались около двух миллионов человек, было решено до 1 мая выслать всех иностранцев. Но тут запротестовали руководители предприятий сельского хозяйства, занятых выращиванием риса — основного продукта питания и экспорта.

В случае отъезда всех нелегальных иммигрантов рисовым хозяйствам потребуется 20 тысяч рабочих рук. Когда же представители Таиландской ассоциации производителей риса попытались нанять новых работников, то им удалось завербовать всего 30 человек. Да и то 20 из них сразу же уволились, поскольку не могут работать в таких тяжелых условиях, на которые соглашались иммигранты.

На общенациональную «ярмарку труда» приехали только 500 человек — главным образом из бедных северо-восточных областей страны. Остальные, очевидно, предпочитают жить на пособие по безработице.

**Юрий ВЛАСОВ**

# последняя капля?

Беларусью, если режим предоставит им дырки в таможенным пространстве, беспрепятственный транзит, «зеленый свет» для их товаров (тем более, что всё это у нас реально регулируется не законодательством, а волей исполнительной власти). Взамен такие бизнесмены готовы лоббировать экономические и даже политические интересы Лукашенко.

Кроме того, Лукашенко сделал Кран-Монтанскому форуму рекламу: благодаря скандалу с Лукашенко форум прогремел на весь мир.

Будет такое письмо с извинениями или нет — это не имеет ровным счетом никакого значения. Скандал-то был спровоцирован Лукашенко, и все об этом знают. Вообще то, что делает Лукашенко и что он из себя представляет, сейчас на Западе известно слишком хорошо, — и любая попытка смягчить отношение к Лукашенко будет очень тщательно анализироваться с точки зрения вероятного подвоха. Так что письмо Картерона (если оно и появится) — это только извинения организаторов форума, и не более того. На общую позицию Запада по отношению к Беларуси это никак не повлияет.

**— Лукашенко обвинил Запад в том, что европейские рынки закрыты для Беларуси. Но не является ли такое положение прямым следствием политики самого Лукашенко?**

— Еще в марте 95-го года Евросоюз заключил с Беларусью соглашение о сотрудничестве и партнёрстве. Также было подписано временное соглашение о торговле. Эти соглашения не только предусматривают квоты для Беларуси на европейских рынках, но и возможность, путем переговоров, постоянного увеличения этих квот, снятия антидемпинговых санкций. Однако ратификация этих соглашений заморожена — и произошло это только по вине Лукашенко. Причем европейские структуры вели себя с Лукашенко даже излишне вежливо, его постоянно предупреждали о последствиях проведения так называемого референдума.

**— Надежда на ратификацию этих соглашений, надо думать, сыграла не последнюю роль в том, что режим год назад пошел на переговоры с оппозицией при посредничестве Евросоюза.**

— Лукашенко хотел втянуть Евросоюз в переговоры, сделать эти переговоры длительными, — а тем временем добиваться политического признания, следствием которого стало бы снятие экономической блокады. И у него была реальная возможность добиться определенных успехов, даже не дожидаясь окончательного результата переговоров. Если бы с переговоров появились положительные сигналы, Лукашенко мог бы довольно твердо ставить вопрос о возобновлении действия по крайней мере временного соглашения о торговле. Но ведь разговор по сути даже не начался — режим отказался обсуждать Конституцию 1994 г., которую сам же, устами министра Антоновича, предложил в качестве предмета переговоров.

**— Ранее Лукашенко, не делая никаких существенных уступок, все же постоянно пытался правдами-неправдами добиться контактов с цивилизованными странами. Теперь же, похоже, ситуация изменилась. Поведение Лукашенко в Кран-Монтане, вкупе со скандалом с посольскими резиденциями, позволяет предположить, что Лукашенко окончательно закусил удила, и на сегодняшний день он вообще не намерен обращать внимание на позицию Запада.**

— Думаю, это не совсем так. К примеру, для чего в «палате» проводились слушания по правам человека? Самому Лукашенко такие слушания абсолютно ни к чему. Они нужны только как аргумент для продвижения на Западе. При этом в отношениях с Западом появляется новое качество: наш режим пробует повлиять на Запад через далёкие от политики вопросы. Через экологию, например. Вот, мол, не будете с нами контактировать — устроим вам «экологическую бомбу». Конечно, такой дешевый шантаж ни к чему не приведет...

Другое дело, что антизападничество Лукашенко приобретает все более и более агрессивный характер. Это означает ухудшение отношений с соседями, поскольку антизападное направление в нашем регионе совершенно не востребуется. Польша идет в первой группе стран, которые станут полноправными членами европейских структур. Украина заявила о своем желании вступить в Евросоюз (о Прибалтике и говорить нечего). Российское руководство временами использует схожую с Лукашенко риторику в отношении Запада — но реальная политика России совсем иная, отнюдь не антизападная. Так что, кроме провалов в политике и экономике, такая позиция Беларуси ничего не приносит.

**— В свете того, что Лукашенко уже не приходится ожидать благосклонности Запада, вероятно ли ужесточение режима внутри страны?**

— Безусловно. Надо же на ком-то отыграться — поэтому естественными жертвами могут стать политическая оппозиция, независимые газеты.

**— Можно ли ожидать, что Запад начнет существенно влиять на Россию, чтобы та прекратила поддержку режима Лукашенко?**

— Думаю, да. Лукашенко всё для этого сделал. Пощечина послам лишила демократические страны последних иллюзий. А Россия сейчас кровно заинтересована не только в экономической, но и в политической поддержке Запада.

Одним из показателей является факт, что белорусский вопрос поднимался во время встречи Ельцина и Квасьневского. Это очень значительный факт: если на двусторонних переговорах польский президент находит время говорить о соседней стране — значит, опасность с белорусской стороны воспринимается и оценивается должным образом.

**— Сможет ли Беларусь существовать изолированно?**

— Пример изолированного государства в центре Европы имеется — Албания времен Энвера Ходжи. Это просто ужасно. На фоне Европы это была пустыня. И с каким треском режим в Албании рухнул! Попытка создать изолированную систему со временем обречена на провал — но последствия самой этой попытки будут крайне негативными.

**— А что Беларусь теряет на сегодняшний день, помимо инвестиций и кредитов, от международной изоляции?**

— В первую очередь результатом изоляции является то, что, с одной стороны, отсутствует возможность привлечения передовых технологий и, следовательно, технологического переоснащения нашей промышленности. С другой стороны — интеллектуальный и научный потенциал Беларуси не включен в мировой контекст. А этот потенциал у нас очень неплохой — я убедился в этом, когда развивалась программа Нанна-Лугара (помощь в вопросах разоружения постсоветским ядерным государствам). То, что сейчас происходит стремительное устаревание науки и производства, можно отнести к самым серьезным последствиям международной изоляции.

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

# Час нарадзіць дзіця

**У якім узросце жанчыне лепш за ўсё стаць маці? Раней медыкі давалі на гэтае пытанне дастаткова адназначны адказ: першае дзіця пажадана нарадзіць ад 22 да 27 гадоў, а роды пасля 34 гадоў могуць мець вельмі непажаданыя наступствы. Цяпер сітуацыя выглядае інакш.**

Зрэшты, медыкі і сёння сцвярджаюць, што ў 25-гадовай маці верагоднасць нарадзіць дзіця з найцяжэйшай хваробай — сіндромам Даўна — невялікая: адзін да 1351. У 35 гадоў рызыка ўжо ўзрастае 1:384, а для 40-гадовых яна дасягае 1:112. Пасля 35-ці жанчынам у два разы часцей даводзіцца рабіць кесарава сячэнне, павышаецца верагоднасць розных ускладненняў падчас родаў. І тым не менш факт ёсць факт: за мяжой усё больш жанчын раджаюць сваіх першых дзетак ва ўзросце каля 40 гадоў.

Прычына, канечне ж, не ў тым, што заходнія кабеты кепска ведаюць пра рэкамендацыі медыкаў. Проста сацыяльныя факты пачынаюць дамінаваць над біялагічнымі. Цяпер жанчыны ўсё часцей імкнуцца спачатку дасягнуць поспехаў у прафесійнай кар'еры і, адпаведна, матэрыяльнага дабрабыту, а пасля ўжо спазнаць радасць мацярынства. Праўда, на такім шляху ёсць свае «падводныя камяні»: чым старэйшая маці, тым цяжэй ёй прыгадаць уласнае дзяцінства і, адпаведна, знайсці агульную мову са сваімі нашчадкамі.

Але ж позняе мацярынства мае і свае перавагі. Па-першае, сцвярджаюць псіхолагі, пасля 35-ці гадоў жанчына, як правіла, робіцца абсалютна ўпэўненай у сабе: гэта не толькі дае ёй магчымасць адэкватна рэагаваць на ўласныя праблемы, але і дапамагаць у вырашэнні праблем дзяцей. Інакш кажучы, у сталых маці рэдка апускаюцца рукі. Жанчына, якая тры з лішнім дзесяткі гадоў жыла паўнацэнным і насычаным жыццём, можа даць сваім дзецям значна больш, чым недасведчанае, няўмелае і няўпэўненае ў сабе дзяўчо, да таго ж яшчэ моцна залежнае (перш за ўсё матэрыяльна) ад сваіх бацькоў. Маладой маці даводзіцца разрывацца паміж сваімі ўласнымі патрэбамі і жаданнямі і неабходнасцю ўсю сябе аддаваць маленькаму жывому стварэнню. А для сталай жанчыны такая змена прыярытэтаў часта бывае прыемнай і радаснай.

І ўсё ж ніякія выкладкі медыкаў і разважанні псіхолагаў не могуць даць поўнай карціны і універсальнага правіла, прыдатнага для ўсіх. Кожная жанчына ўспрымае сваё мацярынства пасвойму. Вось два прыклады.

**Марыя П., юрыст, супрацоўнік сумеснага прадпрыемства:**

— Я вучылася на юрыста старанна: універсітэт, пасля планавала паступаць у аспірантуру... Я абсалютна не збіралася заводзіць дзяцей раней чым у 30 гадоў. Аднак сталася так, што на чацвёртым курсе — мне тады было 21 — я нарадзіла (хацела перарваць цяжарнасць, але лекары сказалі, што ў мяне ёсць пэўная паталогія і пасля аборту дзяцей ужо не будзе ніколі).

Я вельмі люблю сваю дачушку і нават не магу сабе ўявіць, што было б са мной, каб не яна. Але тады мне было крыўдна: мае сяброўкі бегалі на лекцыі, дыскатэкі, па рэстаранах, а я разрывалася паміж вучобай і дзіцем. Нам з мужам пастаянна не хапала ні грошай, ні часу. І ўсё ж я скончыла універсітэт, паступіла ў аспірантуру, але дысертацыю так і не абараніла — дачка была хваравітая, і аддаць яе ў садок я пабаялася.



Сына я нарадзіла зусім нядаўна, а мне ўжо хутка сорак. Толькі цяпер я зразумела, як шмат страціла падчас свайго першага мацярынства. Фактычна я не змагла спазнаць ні радасці вольнага студэнцкага жыцця, ні глыбокага мацярынскага шчасця. Мне не было часу сачыць, як расце, развіваецца, спазнае жыццё мая дачушка. І я пастаянна адчуваю перад ёю віну, што не змагла даць ёй усяго таго, што атрымліваю цяпер ад мяне мой сын.

**Ірэна С., 22 гады, выпускніца Белдзяржуніверсітэта:**

— Некалькі дзён назад я атрымала свой «чырвоны» дыплом і ступень бакалаўра гуманітарных навук. У той жа дзень майму сыну споўнілася тры гады, так што ў мяне было падвойнае свята. Калі я яшчэ толькі збіралася раджаць, некаторыя сяброўкі глядзелі на мяне спачувальна, казалі: ну, чаго ты так рана, ты ж яшчэ нават не парадавалася маладосці, дзе ж вы возьмеце грошы і г.д. Я нават пачала думаць, ці не перарваць вучобу, ці не пайсці ў акадэмічны адпачынак. Але пасля мы з мужам параіліся і вырашылі, што я буду працягваць вучобу.

Было няпроста. Катастрафічна не хапала часу. Гэтыя два гады, можна сказаць, я зусім не спала — або дзіця, або кніжкі. Можна сказаць, што мы вучыліся ва універсітэце удваіх. Затое цяпер мой сынок ужо дастаткова дарослы, каб парадавацца разам са мной за мае поспехі. Цяпер я выходжу ў сталае жыццё з намнога большым досведам і разуменнем, чым мае універсітэцкія каляжанкі. І, нарэшце, цяпер, калі паўстала праблема знайсці працу, у мяне ёсць несумненныя перавагі: я фактычна свабодная жанчына, не звязаная па руках і нагах маленькім дзіцем. А якраз тое, што ў нас ёсць сын, — найлепшы стымул рабіць прафесійную кар'еру і для мяне, і для мужа. Я абсалютна шчаслівая маці! А другое дзіця мы, відаць, народзім тады, калі сын падрасце і зможа дапамагчы ў выхаванні так, як у свой час дапамог мне мой малодшы брат-школьнік.

Як бачым, думкі разыходзяцца. Зрэшты, медыкі таксама гавораць, што важны не сам узрост будучай маці, а яе псіхафізіялагічная гатоўнасць. І таму трэба памятаць, што 35-гадовая кабета, што сочыць за сабой і вядзе здаровы лад жыцця, мае значна вышэйшыя шанцы на шчаслівае мацярынства, чым прадстаўніца маладога пакалення, якая пакутуе ад залішняй вагі і да ўсяго яшчэ курыць.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Немцы сталі піць менш піва

**Калі ў 1992 годзе кожны сярэднестатыстычны жыхар Германіі, уключаючы немаўлят і старых, выпіў у сярэднім па 143 літры піва, то ў 1997 годзе гэты паказчык знізіўся да 131 літра.**

На спажыўцоў не паўплывала нават моцная рэкламная кампанія, на якую летась півавары аддалі больш за 800 мільёнаў марак. Найбольш істотныя страты панеслі самыя папулярныя ў Германіі маркі — «Варштайнэр» (мінус 5,2%), «Хольстэн» (мінус 3,6%) і «Бітбургер» (мінус 2,4%).

## Гарбачову заплацілі «піянерам»

**Гіпсавай статуяй «Піянер», выкананай у стылі «Дзяўчыны з вяслом», выдалі зарплату за мінулы год электрыку аднаго з дзіцячых аздараўляльных лагераў Тульскай вобласці Генадзю Гарбачову.**

Астаткавы кошт «ужыванай» статуі склаў 300 новых расійскіх рублёў — якраз тую суму, што мусіў атрымаць электрык за працу ў лагеры. Зразумела, сям'я Гарбачовых не адмовілася б і ад «жывых» грошай, але, як кажуць, на бязрыб'і... Затое цяпер, калі далёка ўжо не юны, але мануметальны «Піянер» упрыгожвае браму перад домам гэтай сям'і, ёй зайздросцяць нават домаўладальнікі з ліку новых рускіх!

**Алена СУРКО**

## Пад сцягам колераў вясёлкі

**У Мінску створаная Беларуская ліга свабоды сексуальных меншасцяў.**

Як паведаміў старшыня гэтай арганізацыі Эдвард Тарлецкі, Беларуская ліга свабоды сексуальных меншасцяў — абсалютна непалітычная арганізацыя. Ліга збіраецца падтрымліваць людзей з «нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй», а таксама хворых на СНІД.

*«З савецкіх часоў грамадства вельмі адмоўна, а то і з нянавісцю ставіцца да сексуальных меншасцяў і хворых на СНІД. Мы пастараемся зламаць гэты стэрэатып»,* — мяркуе Эдвард Тарлецкі.

Любое таталітарнае грамадства адмаўляе людзям, чые сексуальныя прыхільнасці адрозніваюцца ад агульнапрынятых, у праве на існаванне. Гітлер вынішчаў гомасексуалістаў. У савецкія часы ў крымінальным кодэксе існаваў артыкул: за гомасексуальныя зносіны належала турма. Улады высвятлялі такіх людзей і пад пагрозай арышту прымушалі «супрацоўнічаць» з КДБ.

У ЗША, дзе грамадства вельмі кансерватыўнае, сексуальныя меншасці, як і хворыя на СНІД, адчуваюць сябе больш вольна, чым у постсавецкіх краінах. Але дагэтуль шмат хто ў Амерыцы не можа дараваць прэзідэнту Білу Клінтану, што той адразу пасля прыходу да ўлады дазволіў гомасексуалістам служыць у арміі.

Ні медыкі, ні псіхолагі ніяк не могуць вызначыць, што падштурхоўвае людзей да гомасексуалізму: адны сцвярджаюць, што ёсць пэўны ген, які робіць чалавека гомасексуалістам, іншыя — што ва ўсім вінаватая псіхалогія і няправільнае выхаванне дзяцей бацькамі. Так ці інакш, але людзей з гэтак званай «нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй» нашмат больш, чым можа падацца на першы погляд. Статыстыка сцвярджае, што гомасексуальныя адхіленні маюць ад 6 да 10 працэнтаў насельніцтва Зямлі. Іншая справа, што большая частка гэтых людзей хавае свае сапраўдныя сексуальныя прыхільнасці (альбо нават не здагадваецца пра іх). І толькі некаторыя найбольш смелыя прадстаўнікі сексуальных меншасцяў аб'ядноўваюцца, каб пераканаць людзей, што яны такія ж паўнацэнныя члены грамадства, як і ўсе астатнія.

Як паведаміла сустаршыня Беларускай лігі свабоды сексуальных меншасцяў Святлана Паўлава, ліга мае свой сімвал — выяву грэцкай літары «лямбда», якая з'яўляецца сусветна прызнаным сімвалам руху геяў і лесбіянак, а таксама свой сцяг — сем колераў вясёлкі.

Устаноўчы сойм Лігі адбыўся 3-4 ліпеня, у ім удзельнічала 15 чалавек, і з таго часу ўжо больш за 50 чалавек пажадала далучыцца да гэтай арганізацыі. Цяпер Беларуская ліга свабоды сексуальных меншасцяў збіраецца зарэгістравацца ў міністэрстве юстыцыі, каб узаконіць сваё існаванне. Я разумею, што яны ніякія не «вычварэнцы», а звычайныя людзі, проста — крыху іншыя. Ці зразумеюць гэта чыноўнікі?

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

### *Дарэчы*

У цэнтры Кёльна адбыўся буйнейшы ў Еўропе парад гомасексуалістаў і лесбіянак. У маляўнічым шэсці ўдзельнічалі больш за 25 тысячаў чалавек. За імі наглядалі больш паўмільёна гледачоў. Гомасексуалісты і лесбіянкі, якія ўдзельнічалі ў шэсці, патрабавалі ад уладаў афіцыйнага прызнання шлюбу паміж гомасексуальнымі парамі.

**ФУТБОЛ**

## Промахнись, и тебя полюбят

**Футбольный матч между сборными Франции и Италии в 1/4 финала чемпионата мира стал главным событием жизни французов.**

Незадолго до конца встречи корреспондент ИТАР-ТАСС стал свидетелем трагикомической сценки в парижской клинике, когда врач, выкативший из операционной пациентку, на тревожный вопрос ее мужа: «Ну, как?» раздраженно махнул рукой и ответил: «А, никак — ноль-ноль...»

Телевизоры были включены во всех учреждениях и магазинах. Те, кого встреча застала на улице, осели в ближайших кафе и барах, где устраивались коллективные телепросмотры. Словом, оказаться в этот день в какой-нибудь точке Франции и ничего не знать о ходе матча было практически невозможно.

После матча столица и другие города Франции впали в затяжное ликование. На несколько часов было парализовано движение на улицах Парижа, в том числе на Елисейских полях. Болельщики-пешеходы свою радость выражали купанием в фонтанах. А газеты на следующий день писали, что промахнувшийся в пенальти Луиджи ди Бьяджо стал самым любимым итальянцем во Франции.

## Участники финального матча получат «кругленькую сумму»

**ФИФА решила выделить каждой команде, выступавшей в матчах начиная с 1/4 финала примерно 660 тыс.долларов за каждую игру. Команды финалисты получат почти по 6 млн. долларов.**

Кроме того, все 32 команды, попавшие в финальную часть розыгрыша Кубка мира–98, уже получили по 500 тыс.долларов для *«обеспечения условий подготовки игроков»*. Кстати, суточные игрокам составляют 250 долларов в день.

Правда, некоторая часть полученных национальными ассоциациями финансовых средств уйдет на уплату штрафов в фонд ФИФА за каждое серьезное нарушение правил игроками. Так, «желтая карточка» стоит 660 долларов, а «красная» — около 3,5 тыс. долларов. При повторном нарушении суммы значительно увеличиваются. ФИФА решила направить средства, полученные от «штрафных поступлений», в фонд по развитию детского и юношеского футбола.

## Чемпионат мира закроется дважды

**Париж уже поразил мир грандиозной церемонией открытия футбольного чемпионата. Но то ли еще будет в конце!**

В необычное одеяние из разноцветных панно в полоску и шахматную клетку облачится к 14 июля Эйфелева башня. Известный композитор и создатель музыкально-зрелищных эффектов Жан-Мишель Жарр готовит самую известную достопримечательность французской столицы к участию в свето-музыкальном празднике, который будет посвящен закрытию чемпионата мира по футболу.

По замыслу автора, действие спектакля будет проходить как бы на двух сценах. На панно, установленных на нескольких ярусах башни, будет происходить игра света и цвета. А на нескольких огромных экранах на Марсовых полях развернется красочное видеодейство с видами французской столицы.

Мэр Парижа Жан Тибери обещает парижанам и многочисленным туристам «новый необыкновенный спектакль». Он также объяснил и причину запоздалого на два дня «музыкального финала» чемпионата, который официально завершается 12 июля. У муниципальных служб просто не хватает людей для усиленного режима работы в дни матчей в Париже и многочисленных торжеств, сопутствующих чемпионату.

*По сообщениям ИТАР–ТАСС*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1209 Нумар падпісаны ў друк 06.07.98 (15:00) Наклад — 19.680